СВАБОДА

24 кастрычніка 1995 г.

№45

Кошт свабодны



# На кожны дэпутацкі мандат па 6,6 прэтэндэнтаў

**Падазрэньні, нібыта лістападаўскія выбары пройдуць пры невялікай актыўнасьці суб'ектаў палітыкі, відавочна, ня вельмі спраўдзіліся.**

20 кастрычніка закончыўся першы этап перадвыбарчай кампаніі — вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты. Пасьля гэтага, у адпаведнасьці з заканадаўствам, Акруговыя выбарчыя камісіі на працягу 10 дзён (да 29 кастрычніка) павінны праверыць правамоцнасьць вылучэньняў і зарэгістраваць кандыдатаў у дэпутаты.

Працэс вылучэньня красамоўна прадэманстраваў, што беларусам па-ранейшаму ўласьціва звычка рабіць усё ў апошні момант — больш за палову кандыдатаў падалі свае дакументы ў апошнія тры дні ўстаноўленага тэрміну. І калі ў пачатку мінулага тыдня было зафіксавана ўсяго 440 прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат, то ў канчатковым выніку іх стала 935 (на 141 акругу). Інакш кажучы, у сярэднім 6,6 прэтэндэнтаў на адно дэпутацкае крэсла (на травеньскіх выбарах было каля 9 чалавек на месца).

Найвышэйшая палітычная актыўнасьць, як і варта было чакаць, назіраецца ў Менску, дзе на 42 акругі вылучыліся 329 кандыдатаў (амаль 8 прэтэндэнтаў на месца). У сталіцы большасьць вядомых лідараў дэмакратычных сілаў будуць змагацца ў сваіх старых, "травеньскіх" акругах— С.Шушкевіч, Г.Карпенка, С.Багданкевіч, А.Дабравольскі, В.Голубеў, А.Трусаў, С.Антончык. Выключэньнем тут зьяўляецца Зянон Пазьняк, якога выбаршчыкі шляхам збору подпісаў вылучылі ў некалькіх раёнах Беларусі — Пінску, Смаргоні, Лідзе. Літаральна ў апошні момант лідар БНФ прыняў рашэньне балатавацца ў Смаргоні. А ў ягонай "старой" Ангарскай акрузе ў Менску пазмагаецца за мандат намесьнік старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі.

Мы ўжо паведамлялі пра пошукі ўзаемадзеяньня паміж трыма асноўнымі дэмакратычнымі блокамі — БНФ, Сацыял-дэмакратычным саюзам і Аб'яднанай грамадзянскай партыяй. На сваёй апошняй прэс-канфэрэнцыі кіраўнік выбарчага камітэту БНФ Лявон Баршчэўскі паведаміў, што ўзаемапаразуменьне ўдалося знайсьці амаль паўсюдна за выключэньнем 5—6 акругаў. Пры гэтым можна адзначыць, што, навучаны горкім вопытам, Фронт выступаў у перамовах паміж хаўрусьнікамі даволі памяркоўным чынам. У дэмакратычным трохкутніку, здаецца, лепшыя вынікі дасягнуты паміж БНФ і лібэраламі, у найменшай ступені здолелі дамовіцца лібэралы і сацыял-дэмакраты (напэўна, паводле гістарычнай традыцыі).

Тым ня менш, прыкра-кур'ёзных момантаў пазьбегнуць не заўсёды ўдаецца. Так, Фронт зьняў кандыдатуру Ўладзімера Заблоцкага на карысьць ягонага травеньскага суперніка Віктара Ганчара. Аднак у акрузе, якая паводле дамовы была аддадзеная Фронту і дзе вылучыўся Ў.Заблоцкі, нечакана зьявілася кандыдатура вядомага драматурга, сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксея Дудárава.

Калі разглядаць рэгіянальны аспэкт палітычнай актыўнасьці, то найменш кандыдатаў у дэпутаты вылучана ў Берасьцейскай (больш за 4 кандыдаты ў акрузе) і Гарадзенскай (каля 5,5) абласьцях. Далей, па ўзрастаньні актыўнасьці, ідуць Гомельская, Магілёўская, Менская і Віцебская вобласьць, якая па колькасьці кандыдатаў пераўзышла нават сталіцу.

Відавочна, што сярод цяперашніх кандыдатаў у дэпутаты значна меней выпадковых людзей, якія ў траўні спадзяваліся "на халяву" без сур'ёзных намаганьняў праскочыць у Вярхоўны Савет. Каля паловы ад усіх вылучаных — прадстаўнікі палітычных партыяў. Дарэчы, найбольшую масавасьць выявіла Партыя камуністаў Беларусі, яшчэ на сваім верасьнёўскім пленуме вылучыўшы 115 кандыдатаў у дэпутаты. Астатнія 26 акругаў камуністы аддалі сваім стратэгічным саюзьнікам аграрыям, сацыялістам і Партыі працы і справядлівасьці. Аднак і сярод левых няма поўнай еднасьці — у тых 115 акругах, дзе вылучыліся камуністы, з імі таксама будуць канкураваць іхныя хаўрусьнікі з іншых партыяў.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

**Беларускі Вова і маскоўскі Вася** *стар.2*

**Зьвесткі аб арыштах міліцэйскага начальства не пацьвярджаюцца** *стар.2*

**Роўна 200 гадоў таму адбыўся трэці падзел Рэчы Паспалітай** *стар.3*

**Беларуская антынародная казка** *стар.4*

# Зусім не дзіцячыя гульні

**Ня толькі прэзідэнт гуляе, мы таксама вымушаныя гуляць разам з ім у вядомую дзіцячую гульню "Адгадай".**

Прэзідэнт выступіў перад вэтэранамі. Старыя людзі — тыя ж дзеці, усяму вераць. Вядома, што прэзідэнту трэба было супакоіць пазбаўленых часткі пэнсіяў ды льготаў старых, якія яму так давяралі. Ён паставіў за мэту вярнуць гэты былы давер. І казаў ім тое, што яны хацелі ад яго пачуць. Але ў той блытаніне абяцаньняў прагучалі і такія заявы, якія нельга ўспрыняць інакш як пагрозу грамадзтву. Напрыклад, упершыню прагучалі з вуснаў прэзідэнта словы: "Прамое прэзідэнцкае праўленьне". Ён паабяцаў яго ўвесьці, калі парламант ня будзе абраны.

СВАБОДА вырашыла пацікавіцца, як ставяцца да магчымасьці ўвядзеньня прамога прэзідэнцкага праўленьня вядомыя ў Беларусі палітыкі, і падрыхтавала тры пытаньні, якія былі зададзены ў кулуарах круглага стала, што днямі праводзіў цэнтар "Усход-Захад".

Вось гэтыя пытаньні:

*1. Што для вас азначае прамое прэзідэнцкае праўленьне ў Беларусі?*

*2. Прэзідэнт заклікаў вэтэранскія арганізацыі адклікаць сваіх пасланцаў-дэпутатаў з парламанту. Як вы лічыце, навошта?*

*3. Уявім сітуацыю: прайшлі новыя выбары, працэнт удзельнікаў быў вышэйшым за 25%, але ніжэй за 50% (адпаведна старому закону). Прэзідэнт, які дагэтуль ня лічыць парламант легітымным, спасылаецца на стары закон і вынікі выбараў не прызнае. Вашыя дзеяньні.*

**Мікалай Статкевіч:**

1. Па-сутнасьці, прэзідэнт пагражае дыктатурай. Камэнтары тут залішнія. Па-чалавечы, безумоўна, гэта абурае. Ня выключаны варыянт, што прэзідэнт захапіўся, ён увесь час імкнецца спадабацца пэўнай аўдыторыі. Але, калі ён захапіўся, то ён перайшоў межы дазволенага і разумнага. Калі ж гэта прадуманая палітычная заява, то яе можна назваць пагрозай зьдзейсьніць злачынства.

2. Каб парламант ня меў кворуму і страціў свае ўсялякія паўнамоцтвы.

3. А пры чым тут прэзідэнт? Парламант абіраецца згодна з Канстытуцыяй і законам. І ўвогуле, у мяне ўзьнікае пытаньне, чаму прэзідэнт не разумее адной рэчы: ён прэзідэнт перад намі згодна Канстытуцыі, калі ж Канстытуцыі няма, калі ён яе парушае, то гэта ўжо не прэзідэнт, а проста Аляксандар Лукашэнка.

**Станіслаў Багданкевіч:**

1. Што гэта такое "прамое прэзідэнцкае праўленьне"? Гэта будзе чарговым парушэньнем законаў і Канстытуцыі. Такія заявы сьведчаць, што выканаўчая ўлада ніяк не пазбавіцца спакусы зрабіць крокі ўбок ад законнага шляху. Але ў дадзеным выпадку я веру, што мы абыйдземся без прамога прэзідэнцкага праўленьня. Хапае звычайнага.

2. Вэтэранаў зноў выкарыстоўваюць. Канечне, са старымі людзьмі гэта рабіць прасьцей. Калі б гэтых людзей сапраўды паважалі, іх бы не лічылі за палітычны матар'ял.

3. Я законапаслухмяны грамадзянін, а закон сьцьвярджае, што выбары павінны адбыцца, калі ў іх прыме ўдзел 25% выбаршчыкаў. Калі ж перад новымі дэпутатамі зачыняць дзьверы парламанту, тады ня ведаю... Ня верыцца, што такое можа здарыцца.

**Валянцін Голубеў:**

1. У такой заяве я бачу, папершае, што Лукашэнка будзе імкнуцца да таго, каб выбары не адбыліся. Па-другое, ён зрабіў праверку на выпадак увядзеньня дыктатуры. Калі зараз грамадзкасьць прамаўчыць на гэты конт, то можа здарыцца ўсё, што заўгодна.

2. Адназначна, што пры дапамозе вэтэранскіх арганізацыяў прэзідэнт спрабуе ліквідаваць парламант. Тады можна рабіць усё, што захочацца, бо парламант адзіны орган, які мае права кантраляваць выканаўчую ўладу.

3. Атрымаецца, што дэпутат, якога выбралі па новай схеме, з улікам папраўкі ў законе, змагаецца быццам бы за сябе. Цяжкае маральна становішча, так? Таму я бачу адзінае выйсьце. Трэба каб Канстытуцыйны суд да пачатку выбараў прыняў рашэньне наконт таго, канстытуцыйныя тыя папраўкі аб 25% альбо не.

**Уладзімер Карагін:**

1. Прамое прэзідэнцкае праўленьне можна ўводзіць у выпадку вайны, нейкіх стыхійных бедстваў. У нас гэтага няма, і таму я ня бачу падставаў да такога кроку. На мой погляд, лепш было б спыніць пошук унутраных ворагаў. Калі ў нас і ёсьць ворагі, то ўсё ж хутчэй звонку. Таксама заўважу, што ў выпадку ўвядзеньня прамога прэзідэнцкага праўленьня без усялякіх падставаў, нам могуць аб'явіць эканамічныя санкцыі. Такія прыклады ў сьвеце ёсьць.

2. Канечне, гэта спроба зрабіць парламант непрацаздольным, але заўважу, што нават прававы мэханізм адкліканьня дэпутатаў не распрацаваны, адпаведнага закону няма. А прыняць яго — справа парламанту.

3. У такім выпадку варта было зьвярнуцца да нядаўняга рашэньня КС, які прызнаў легітымнасьць дзеючага парламанту. Гэта значыць, што і карэкціроўка выбарчага закону легітымная. Закон трэба паважаць і гэтая норма распаўсюджваецца на ўсіх без выключэньня. Што будзе, калі законы не выконваюцца? Нагадаю, што сёлета па ўзроўні злачыннасьці мы займаем адно з першых месцаў у СНД. Але ці варта зьдзіўляцца? У краіне, дзе вышэйшая ўлада не дэманструе прыкладу безумоўнай павагі да закона, чакаць іншага немагчыма.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 42 000

Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56

Тэл./факс 36-24-41

# „Грыб разьвіваецца па сьпіралі"

**19 кастрычніка, выступаючы на сустрэчы з вэтэранамі, Аляксандар Лукашэнка паведаміў сэнсацыйную навіну. Аказваецца, ва ўсім вінаватыя дэмакраты. "Гэтыя апазіцыянэры, — сказаў Лукашэнка, — паставілі прэзідэнта перад неабходнасьцю прыняцьця непапулярных мераў".**

Камэнтуючы пазіцыю сьпікера парламанту Мечыслава Грыба, прэзідэнт адзначыў: "Гэты Грыб разьвіваецца па сьпіралі і цяпер, па маіх падліках, знаходзіцца на 4-ым узроўні. Ён перасунуўся ад камуніста да нацыянал-радыкала". Прэзідэнт таксама заявіў, што не спыніцца ні перад якімі мэтадамі, каб абараніць людзей, якія працуюць побач з ім. "Мы зможам цывілізаванымі мэтадамі справіцца з кучкай тых, хто дыстабілізуе абстаноўку ў грамадзтве".

Аляксандар Лукашэнка перакананы, што толькі з прычыны развалу СССР стала магчыма тая напруга на планэце, якая склалася сёньня. "Калі б быў Савецкі Саюз, то не было б вайны на Балканах — я ў гэтым абсалютна перакананы".

Зьвяртаючыся да вэтэранаў, прэзідэнт заявіў: "Калі вы думаеце, што самай галоўнай праблемай зьяўляюцца льготы, цэны, бюджэт і гэтак далей, то вельмі памыляецеся. Галоўная праблема — гэта супрацьстаяць спробам крымінальных структураў захапіць нашыя непрыватызаваныя прадпрыемствы. Я ня супраць прыватызацыі, але нехта хоча ў каламутнай вадзе ўсё расхапіць, а потым заявіць — іншага шляху не было. Галоўная наша праблема "гэта тыя кланы і групоўкі, якія спрабуюць паставіць мяне на калені, але ў іх пакуль што нічога не атрымліваецца. Адзінае, што стрымлівае Беларусь ад грамадзянскай вайны, гэта прэзідэнт — гарант Канстытуцыі".

*СІМ*

# У Бабруйску заняліся „Беларусьбанкам"

**Сьледчы аддзел Бабруйскага УУС узбудзіў дзьве крымінальныя справы "па фактах выманьваньня крэдыту" (артыкул $150^{2}$ Крымінальнага кодэксу).**

Абедзьве справы датычаць бабруйскай філіі "Беларусьбанка". Фігуруе сума ў 16 млрд. рублёў. У выніку гэтага расьсьледаваньня могуць выявіцца цікавыя рэчы, якія датычаць аб'яднаньня камэрцыйнага "Беларусьбанка" з дзяржаўным "Ашчадбанкам".

**Іван СІДАР**

# Беларускі Вова і маскоўскі Вася

**Паведамленьне пра паездку асабістага пасланьніка прэзідэнта Лукашэнкі Уладзімера Замяталіна ў Ірак у нармальных людзей выклікае зьдзіўленьне ды іронію.**

Сьмешнага, аднак, мала. Іракскі візіт, на маю думку, можна патлумачыць такой банальнай прычынай, як "рука Масквы". За апошні год Масква ўжо ня першы раз выкарыстоўвае Беларусь у якасьці трэніровачнага палігону для праверкі папярэдняй рэакцыі міжнароднай супольнасьці на некаторыя свае зьнешнепалітычныя крокі. Так было са спыненьнем Беларусяй скарачэньняў звычайных узбраеньняў, так адбываецца з шуміхай вакол пашырэньня NATO. Менавіта гэткую ж задачу мела іракскае падарожжа Замяталіна: намацаць варыянты зьняцьця з Іраку міжнародных санкцыяў, пра што з радасьцю паведаміла іракскае інфармацыйнае агенцтва.

Вядома, што ніякіх уласных інтарэсаў ад зьняцьця санкцыяў з Іраку ў Беларусі няма, у гэтым найперш зацікаўленая Расея, якая спадзяецца на адраджэньне Багдаду ў якасьці процівагі Ірану і на вяртаньне сваіх даўгоў. Але афіцыйнай Маскве ня выгадна праяўляць ініцыятыву ў такіх пытаньнях — краіна прэтэндуе называцца дэмакратычнай і атрымліваць заходнія крэдыты. Для ролі своеасаблівага расейскага авангарду, расейскай разьведроты (дакладней, штрафной роты) добраахвотна прызначылася Беларусь.

Мне ўсё гэта нагадвае дваровую сітуацыю, калі шпана хоча дачапіцца да нейкага сур'ёзнага дзядзькі. Але спачатку, каб праверыць ягоную моц і трываласьць, наперад выпускаюць малога байстручка. Той гаворыць нешта накшталт "мужык, дай закурыць", а потым істэрычна лямантуе: "Вась, ён мяне ўдарыў!" Прыкладна такую агідную ролю выконвае зараз кіраўніцтва Беларусі пры маскоўскім Васі.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Будуць лічыць па-свойму?

**Як стала вядома карэспандэнту СВАБОДЫ з неафіцыйных крыніцаў, выканаўчая "вэртыкаль" атрымала каманду з прэзідэнцкай адміністрацыі весьці паралельны падлік галасоў на лістападаўскіх выбарах, сыходзячы з нормы ў 50% яўкі выбаршчыкаў.**

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Маёмасьць апісалі за даўгі

**На бабруйскім заводзе "Вагапрыбор" адбыўся стыхійны мітынг. Рабочыя патрабавалі працы і заробку.**

Апошнія месяцы работнікам "Вагапрыбора" выплочваюць усяго па дзьве мінімальныя зарплаты (120 тыс. рублёў). Колішні авангард ня толькі мясцовай, але і ўсесаюзнай прамысловасьці, чые прыборы вагавага вымярэньня і аналізу больш нідзе ў СССР не выраблялі, сёньня стаіць бяз працы. Дапатопная прадукцыя цяпер нікому не патрэбна. Маёмасьць прадпрыемства апісана падатковай інспэкцыяй, заводу адключылі падачу электраэнэргіі, бо запазычанасьць склала 10 млрд. рублёў (гэтая сума роўная той, колькі каштуе сам "Вагапрыбор").

А перад гэтым былы дырэктар завода Міхаіл Хромаў пасьпеў заключыць кантракт з немцамі, дзякуючы якому вырабленая прадукцыя немцам каштавала 20 марак за адзін прыбор, а бабруйчанам яна абыйшлася ў тры разы даражэй. Пасьля "ўдалай" зьдзелкі Хромаў звольніўся, а завод засталіся ні з чым. Раней ён быў рэарганізаваны ў акцыянэрнае таварыства. Дзякуючы той мадэлі прыватызацыі і разьдзяржаўленьня, якая ў нас сёньня пануе, калі асноўны пакет акцыяў застаецца ў дзяржавы (у дадзеным выпадку магілёўская абласная Дзяржкаммаёмасьць валодае 95% акцыяў заводу), а кіраўніцтва разам з рабочымі ня ведаюць, хто гаспадар прадпрыемства і адбываюцца тыя недарэчнасьці, калі фармальна недзяржаўны завод працуе як дзяржаўны, спадзеючыся на крэдыты і датацыі. Сёньня рабочыя і адміністрацыя чакаюць крэдыту, каб заплаціць заробак, просяць дапамогі ад улады і злуюцца на былога дырэктара. А "Вагапрыбор" стаіць.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Лёзьненская справа закрытая

**Лёзьненская міліцыя так і не знайшла "Мірона", які на Дзень Незалежнасьці вывесіў бел-чырвона-белы сьцяг на 40-мэтровы комін мясцовага быткамбінату.**

Нагадаем, што амаль тры месяцы таму па факце надпісу ("Осторожно! Взрывное устройство!") на скрыньці, прымацаванай да коміну, была ўзбуджана крымінальная справа. Лепшыя міліцэйскія сьледчыя займаліся пошукам зуха, але іхныя намаганьні скончыліся безвынікова.

Як заўважыў карэспандэнту СВАБОДЫ начальнік лёзьненскай міліцыі, калі б і ўдалося знайсьці "Мірона", то ён адкупіўся б звычайным штрафам за адміністрацыйнае парушэньне.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

## „Новая прафэсія"

**У Магілёўскім ПТВ №237 пачалі навучаць прафэсіі пячніка.**

Ва ўмовах, калі ў многіх зьяўляецца жаданьне мець печ або камін, гэтая прафэсія зноў становіцца неабходнай. Сярэдні заробак печніка складае каля 5 млн. рублёў у месяц.

## Пункт прыёму „братоў меншых"

**Магілёўскае спэцпрадпрыемства арганізавала прыём сабак і катоў.**

У сярэднім штодзень здаюць па 4 сабакі і 6 катоў. За аднаго сабаку плоцяць 16 тыс., а за ката — 8 тыс. рублёў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Зьвесткі аб арыштах міліцэйскага начальства не пацьвярджаюцца

**Прэс-служба Міністэрства ўнутраных справаў да канца мінулага тыдня не пацьвярджала дадзеныя аб арыштах у міліцыі, пра якія абвесьціў А.Лукашэнка.**

Нагадаю, што навіна аб 10-ці арыштаваных высокіх кіраўніках міліцыі прагучала ў чацьвер з вуснаў прэзідэнта Лукашэнкі на сустрэчы з вэтэранамі. Прэзідэнт, спасылаючыся на новага выконваючага абавязкі міністра ўнутраных справаў Віктара Шэймана, паведаміў вайсковым пэнсіянэрам аб тым, што за першыя два "шэймаускія" дні арыштавана больш за 10 супрацоўнікаў міліцыі. Чыстка падавалася як мера па навядзеньні парадку пасьля былога міністра Ю.Захаранкі. Вэтэраны сустрэлі гэтую навіну авацыямі. А журналісты кінуліся шукаць пацьвярджэньне зьвесткам.

У чацьвер увечары і пятніцу прэсу частавалі самай супярэчлівай інфармацыяй. Спачатку арышты ніхто пацьвердзіць ня здолеў. Потым знайшоўся нібыта нейкі міліцэйскі чыноўнік, які назваў прыблізную колькасьць арыштаваных злачынцаў-міліцыянтаў: каля 20 чалавек. Але да сярэдзіны пятніцы прэс-служба МУС рашуча абвергла гэтыя чуткі і спаслалася на дзяжурную частку міністэрства, у якой не было ніякіх дадзеных пра раптоўныя арышты як супрацоўнікаў МУС, так і кіраўнікоў ніжэйшых адзяленьняў.

У чым жа справа? Канечне, пакуль рана сьцьвярджаць, што сказанае прэзідэнтам гэта імправізацыя на тэму: "Вось як мы змагаемся за чысьціню шэрагаў". Дзяжурны па міністэрстве мог і ня ведаць усяго, што адбылося ў сістэме, хаця наўрад ці новае кіраўніцтва хавала б інфармацыю аб арыштах, калі б яны сапраўды былі. Бо толькі так можна зараз запалохаць супрацоўнікаў міліцыі, якія цалкам спачуваюць Захаранку. Вылучэньне былога міністра кандыдатам у дэпутаты ад Гомельскага ўпраўленьня ўнутраных справаў добра даказвае, што Захаранка карыстаецца вялікім аўтарытэтам і чуткам пра ягоныя нібыта фінансавыя злоўжываньні ў міліцыі проста не павераць.

Застаецца адно — каб паверылі доказам. Таму можна прадбачыць, што раптоўныя арышты ў міліцэйскім кіраўніцтве, калі іх яшчэ не было, могуць сапраўды адбыцца. Новая вярхушка МУС абавязкова паспрабуе даказаць, што ўвесь мінулы год міліцыя, як тая рыба, распадалася з галавы. Хіба ж цяжка будзе знайсьці такія доказы: шырока вядома, што менавіта пры Захаранку значна пашырылася ачышчэньне міліцыі ад выпадковых людзей ці нават злачынцаў. Вось дадзеныя са справаздачы міністра:за год 420 чалавек было звольнена з органаў унутраных справаў, 3000 пакараныя за службовыя парушэньні, 59 арыштаваныя і пакараныя судом. Для параўнаньня: гэтыя лічбы ў 1987 г. склалі 19 чалавек, а тады, хто памятае, былі самы пік барацьбы за "ачышчэньне савецкай міліцыі". Як пацьвярджаюць у інспэкцыі па асабовым складзе МУС, пэўная колькасьць міліцыянтаў і цяпер знаходзіцца пад сьледзтвам. У дачыненьні да некаторых, хто падазраецца, напрыклад, у хабары, вядуцца неабходныя апэратыўныя дзеяньні. Гэта азначае, што, ў прынцыпе, магчыма і сёньня раптоўна правесьці некалькі дэманстратыўных арыштаў, каб потым заявіць, што за "ачышчэньне" узяліся па-сапраўднаму. Зьвесткі, якія зьявіліся ў дзяржаўнай прэсе аб затрыманьні начальніка аддзяленьня міліцыі ў пасёлку Калодзішчы Менскага раёну — напэўна з гэтай жа сэрыі. Але, па-сутнасьці, гэта будуць справы, якія пачыналіся пры Захаранку і да якіх новае кіраўніцтва ніякага дачыненьня ня мае.

Вось тое, што зараз ад яго залежыць, можа выклікаць вялікія апасеньні. Недахоп прафэсіяналізму новых кіраўнікоў МУС могуць паспрабаваць кампэнсаваць коштам павышэньня колькасьці арыштаваных. Нагадаю, што сам Ю.Захаранка яшчэ да вызваленьня ад пасады выказаў сумненьні ў тым, што новы кіраўнік крымінальнага вышуку (былы намесьнік старшыні КДБ) Іван Юркін будзе здольны добра працаваць на пасадзе намесьніка міністра ўнутраных справаў. Выказаў Захаранка сумненьні і адносна здольнасьцяў Віктара Шэймана кіраваць праваахоўчай сістэмай, у якой ён ніколі не працаваў. Гэта адбылося ўжо пасьля прызначэньня Шэймана выконваючым абавязкі міністра. І сапраўды, варта згадаць, што вопыту барацьбы са злачыннасьцю ў дзяржсакратара няма. Затое ёсьць вопыт вядзеньня баявых дзеяньняў у Афганістане. Ці не з таго вопыту ўзятыя звычаі радаваць вышэйшае кіраўніцтва лічмамі міфічных перамогаў. 10 арыштаваных высокіх супрацоўнікаў міліцыі — пакуль гэта таксама толькі міф. Але ня думаю, што нам доўга засталося чакаць, калі міф стане рэальнасьцю.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

# За сёлетні ўраджай будуць расплочвацца нашыя дзеці

**На гэтую зіму Беларусь мае намер закупіць за мяжой 300 тысяч тон пшаніцы і каля мільёна тон фуражнага збожжа.**

Наш уласны ўраджай склаў сёлета каля шасьці мільёнаў тон. Нібыта някепска, хоць гэта і менш, чым летась. Пасьля перапрацоўкі на кожную душу прыпадзе каля 530 кілаграмаў збожжа. Практычна, атрымаецца сярэднеэўрапейскі паказьнік (у Вялікабрытаніі каля 440 кг). Аднак нельга ня ўлічваць, што хлеб у Беларусі застаецца асноўным прадуктам харчаваньня для бальшыні зьбяднелага насельніцтва. Да таго ж, каля 70% збожжа ідзе на выраб камбікармоў.

У Міністэрстве сельскай гаспадаркі лічаць, што сёлетні ўраджай, "мы фактычна пазычылі ў нашых дзяцей, бо атрымалі яго за кошт зьнясіленьня пладавітасьці, зьбядненьня глебы". Увогуле, на зямлі мы працуем вельмі дрэнна. Цяпер нават на Гарадзеншчыне, якая лідзіравала ў былым СССР, ураджайнасьць набліжаецца да ўзроўню натуральнай пладавітасьці — 17 цэнтнэраў з гектару. "Праз эканоміку ідзе ўдушэньне, рабаваньне сельскай гаспадаркі", — абураюцца ў міністэрстве. Маюць на ўвазе тое, што за кілаграм хлеба дзяржава сёньня плоціць гаспадарцы столькі ж, колькі каштуюць тры каробкі запалак. Нягледзячы на такі сьмешны кошт, калгасы вымушаныя здаваць зерне нарыхтоўчым арганізацыям за бясцэнак. Некаторыя, як за часам харчразьвёрстві, спрабуюць яго схаваць, каб рэалізаваць з большым прыбыткам.

У Міністэрстве сельскай гаспадаркі спасылаюцца на заходнюю практыку: "Эўропа забясьпечвае сваю харчовую бясьпеку, бо эўрапейскім кіраўнікам хапае розуму плаціць айчынным вытворцам дзьве-тры сусьветныя цаны" (у Швайцарыі каля 550 даляраў за тону зерня).

Якія ж кошты на збожжа ў вольным сьвеце? За тону піваварнага ячменю даюць 226$, кармавога — 178$, кармавой пшаніцы — 185$ Наша краіна адваліла калгасам за тону збожжа 61$, піваварнага ячменю — 96$, кармавога ячменю — 61$. Аграрнікі скардзяцца, што за адзін камбайн неабходна аддаць 1200 тон зерня. Для многіх гаспадарак сёньня гэта пагібель. Хлеб, на іхную думку, атрымліваецца танным у параўнаньні з трактарам, камбайнам, ці мінэральнымі ўгнаеньнямі.

Ці падскочуць цэны на хлеб у нашых крамах? Як сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ старшыня камітэта па хлебапрадуктах Мікалай Якушаў, "у залежнасьці ад зьмены канюнктуры зернавога рынку, магчыма і зьмена розьнічных цэнаў. Калі мы будзем купляць даражэйшую пшаніцу, значыць будзе пэўнае павышэньне цэнаў на хлеб".

Невялікая частка пшаніцы ўжо куплена ва Ўкраіны і Вугоршчыны па 170 даляраў за тону. І чым далей, тым купляць цяжэй і непрыемней, бо ўзьнікаюць праблемы з той жа перадаплатай. Цэнтралізаваныя фінансавыя рэсурсы для гэтых мэтаў адсутнічаюць, а скарыстоўваюцца мізэрныя абаротныя сродкі. Новыя закупкі зерня плануюцца ў Расеі. Амэрыканская ці канадзкая пшаніца, як сказаў М.Якушаў, "нам недаступныя з прычыны вялікіх коштаў".

Адзін з кіраўнікоў Мінсельгасу, які прасіў не называць ягонае прозьвішча, слушна заўважыў, што "прасьвятленьне прыйдзе, калі мы застанемся бяз хлеба".

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Канцэрт у консульстве

**Вечарына беларускай, польскай і літоўскай песьні адбылася ў Генэральным консульстве РП у Горадні.**

Песьні пад гітару выконвала Марыя Крупавец з Вільні. Апроч беларускіх і польскіх прагучала шмат габрэйскіх ды расейскіх песьняў. Па словах сьпявачкі, ёй даспадобы рэгіён, які агортвае Беласточчыну, Гарадзеншчыну ды Віленшчыну і ёсьць сумежжам некалькіх культураў. Напрыклад, адна песьня з яе рэпэртуару гучыць у польска-беларуска-літоўскім варыянце. А большасьць беларускіх народных песьняў, якія выконвае М.Крупавец, яшчэ можна пачуць у віленскім навакольлі. Ад гарадзенцаў на гэтым канцэрце выступіў бард Віктар Шалкевіч, які сьпяваў гумарыстычныя песьні.

Публіку, запрошаную на вечарыну, частавалі з вялікай мэталёвай бочкі польскім півам EB. Дарэчы, гэтае піва падаецца сёньня ва ўсіх лепшых гарадзенскіх барах і рэстарацыях, хаця і мясцовыя гатункі — "Маладзецкае", "Белая Русь" ды "Калюжскае" — маюць прыстойную якасьць. А вось гарадзенская вада палякаў зусім не задавальняе і для патрэбаў консульства яе возяць з вёскі Крыніца, што ля беларуска-літоўскае мяжы.

С.А.

## Варшаўскі ўнівэрсітэт у Горадні

**У Горадні дзейнічае філія Варшаўскага ўнівэрсітэту. Сёлета па спэцыяльнасьці "пэдагогіка" пачалі займацца 38 студэнтаў з усёй Беларусі.**

Адбор рабіўся з дапамогай Саюзу палякаў. Самай важнай умовай было веданьне польскай мовы. Навучаньне — бясплатнае, а тэрмін — звычайны ўнівэрсітэцкі — 5 гадоў. Выпускнікі атрымаюць адпаведныя польскія дыпломы.

Памяшканьні і побыт студэнтаў аплочвае Wspólnota Polska, а польскіх выкладчыкаў і навучальны працэс фінансуе Міністэрства адукацыі РП.

С.А.

## На радзіме Напалеона Орды

**У Берасьці створаны і ўжо дзейнічае абласны фонд імя Напалеона Орды.**

Улетку фонд правёў пленэр для берасьцейскіх мастакоў у вёсцы Варацэвічы Іванаўскага раёну на радзіме Напалеона Орды. У наступным годзе там плануецца правядзеньне пленэру з удзелам 20 мастакоў з Францыі, Польшчы, Украіны і іншых краінаў сьвету.

Напалеон Орда вядомы як мастак, кампазітар, удзельнік паўстаньня 1831 г., вялікі патрыёт сваёй зямлі. Перад сьмерцю ён загадаў пахаваць сябе на радзіме ў родавым склепе на могілках у Іванаве. Пры Саветах гэтыя могілкі зьнішчылі і пабудавалі там школу. Але Орду пашанцавала: месца, дзе ён быў пахаваны, засталося і знаходзіцца ў двары школы. На гэтым месцы фонд плануе ўстанавіць помнік. Акрамя таго, на трасе Берасьце—Гомель каля вёскі Варацэвічы будзе ўстаноўлены 2-мэтровы каменны ўказальнік "Памятныя мясьціны Напалеона Орды". Адкрыцьцё памятных знакаў запланавана да 190-х угодкаў знакамітага земляка, якія будуць адзначацца ў 1997 годзе.

Ігар БАРАНОЎСКІ

## Літва імкнецца пад натаўскі парасон

**Літва імкнецца як мага хутчэй уступіць у Эўрапейскі Саюз і стаць паўнапраўным сябрам NATO. Аб гэтым гаворыцца ў заяве Сэйму Літвы, прынятай 19 кастрычніка.**

У дакуманце падкрэсьліваецца, што ніводная дзяржава ня мае юрыдычнага або маральнага права ўказваць, якія рашэньні Літва павінна прымаць. За дакумант прагаласавала 39 дэпутатаў Сэйма, 3 — устрымаліся.

Сэйм адзначае, што Літва ўсяляк будзе супрацоўнічаць і абараняцца ў выпадку любой новай агрэсіі.

У заяве, у прыватнасьці, гаворыцца, што інтэграцыя Літвы ў заходнеэўрапейскія і сусьветныя дэмакратычныя структуры неаддзельная ад эканамічнай, палітычнай і сацыяльнай бясьпекі. Разам з тым заяўляецца пра гатоўнасьць развіваць добрасуседзкія стасункі і супрацоўніцтва з суседнімі краінамі, а ў сваёй зьнешняй палітыцы кіравацца прынцыпамі раўнапраўя і павагі.

BNS

Уладзімер АРЛОЎ

# Няма народа — няма праблемы?

**Роўна дзьвесьце гадоў таму, 24 кастрычніка 1795 г. адбыўся трэці падзел Рэчы Паспалітай**

Фэдэратыўная Рэч Паспалітая, якая складалася з каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага, была, па сутнасьці, рэспублікай. Гэта падкрэсьлівала сама назва, якая азначала тое ж самае, што і лацінскае res publika — грамадзкая справа.

Але ня варта ідэалізаваць шляхецкую дэмакратыю: яна мела і адваротны бок — анархію. Раней Сойм Рэчы Паспалітай прымаў пастановы большасьцю галасоў, аднак з 1652 года ўступіла ў дзеяньне права liberum veto (рашэньне прымалася толькі ў выпадку аднадушнага галасаваньня). У 1652—1764 гадах былі сарваныя сорак чатыры Соймы з васьмідзесяці.

Першы падзел Рэчы Паспалітай (1772г.) паскорыў у ёй прагрэсіўныя пераўтварэньні. Тут дзейнічала першае ў сьвеце міністэрства народнае асьветы — Адукацыйная камісія, што адчыніла на Беларусі 200 пачатковых школаў. 3 траўня 1791 года Сойм зацьвердзіў першую ў Эўропе і другую ў сьвеце (пасьля ЗША) канстытуцыю. Гэта быў магутны ўдар па магнацкім самаўладзтве і фэадальнай анархіі.

Рэч Паспалітая рабілася канстытуцыйнай спадчыннай манархіяй, дзе абвяшчалася свабода друку і сумленьня, галоснасьць суда, адмена неабмежаванага прыгоннага прыгнёту. Скасоўвалася права liberum veto. Дзяржава давала свабоду ўсім іншаверцам-уцекачам нешляхецкага паходжаньня і абяцала захоўваць рэлігійную талерантнасьць. Зьяўляліся тэрміны і фармулёўкі, знаёмыя нам з сёньняшніх газэтаў і тэлеперадач: справаздача міністраў, адстаўка ўрада па патрабаваньне 2/3 дэпутатаў Сойму, падзел улады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Гараджанам гарантавалася недатыкальнасьць асобы без судовага рашэньня. "Земляробчы люд, — было запісана ў Канстытуцыі, — з-пад рукі якога плыве шчодрадайная крыніца багацьця краіны, зьяўляецца найбольш колькаснай часткаю народу, а ў выніку — наймагутнейшай сілай краіны, павінен быць у апецы права і дзяржаўнага ўраду".

Але радасьць прыхільнікаў Канстытуцыі была нядоўгая: праз год у межы Рэчы Паспалітай уварваліся расейскія і прускія войскі, што скончылася другім падзелам краіны.

Расейская імпэрыя набыла тры мільёны новых падданых. Каб "узаконіць" падзел, па волі імпэратрыцы ў Горадні склікалі Сойм, які ўвайшоў у гісторыю пад назваю "нямога". Пратэстуючы, дэпутаты тры дні маўчалі. Царыцынных назіральнікаў цяжка было зьбіць з панталыку: хтосьці з іх задаволена абвесьціў, што маўчаньне — знак згоды.

Нашыя продкі не зьбіраліся пратэставаць толькі маўчаньнем.

Увесну 1794 года Беларусь, Літва і Польшча выбухнулі паўстаньнем, дыктатарам якога стаў Тадэвуш Касьцюшка, беларус па паходжаньні. Аднак паўстаньне, якое жалезнай хваткаю душыла рэгулярная, загартаваная ў захопніцкіх паходах царская армія, ня мела шанцаў на перамогу. Нагадаем, што на чале царскага войска стаяў Аляксандар Сувораў. На працягу ўсёй сваёй кар'еры ён аддана служыў жандарскай палітыцы царызму і ня ўдзельнічаў ні ў адной абарончай вайне. Для Расеі ён сапраўды выдатны палкаводзец. Для Беларусі — найперш карнік, камандзір акупантаў. За зьдзейсьненыя ягонымі салдатамі ў 1794 годзе крывавыя подзьвігі генэрал-фэльдмаршал Сувораў атрымаў ад імпэратрыцы Кобрыньскую воласьць і іншыя беларускія землі з 13 279 душамі прыгонных сялянаў. Прыйдзе час і імем Суворава ў Беларусі будуць названа 60 вуліц у гарадох і мястэчках...

1795-ты стаўся годам трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай і ейнага гістарычнага скону. Канвэнцыя аб гэтым была падпісаная 24 кастрычніка ў Пецярбурзе. Былы фаварыт расейскай імпэратрыцы Кацярыны II, апошні вялікі князь літоўскі і кароль польскі Станіслаў Аўгустператварыўся ў вязьня пецярбурскай цытадэлі і сядзеў па суседзтве з Касьцюшкам.

Даўняя мара расейскіх цароў зьдзейсьнілася: Беларусь на два стагодзьдзі зрабілася калоніяй.

Кагосьці, выхаванага на байках пра братнюю дружбу савецкіх народаў з часоў Івана Жахлівага, гэтыя словы шакіруюць. Пакінем эмоцыі, а зьвернемся да фактаў.

Пры ўсіх ейных хібах Рэч Паспалітая перад гібельлю была шляхецкай рэспублікай, дзе ўжо даволі хутка разьвіваўся капіталістычны лад. У Расеі дасягнула вяршыні магутнасьці абсалютысцкая фэадальная манархія з сярэднявечнымі законамі, ці дакладней, беззаконнем. Тым, хто прывык верыць класікам марксізму-ленінізму нагадаем: Беларусь захапіла краіна, якую Маркс і Энгельс назвалі жандарам Эўропы, а Ленін — турмой народаў.

Кацярына II і ейны сын Павел I раздалі ў беларускіх губернях сваім памешчыкам 208,5 тысячы душаў "мужеска полу". Па такіх душах лічылі сем'і, а яны мелі ў сярэднім па 4—5 чалавек. Такім чынам, больш за мільён беларусаў зрабіліся прыгоннымі расейскіх памешчыкаў, прычым значная частка гэтых сялянаў раней была асабіста свабодная.

Фэадальная гаспадарка ў Расеі вылучалася прымітыўнасьцю. Беларускіх сялянаў, якія ў большасьці сваёй раней плацілі грашовы аброк — чынш, пагналі на паншчыну. Формы прыгону ў імпэрыі былі больш жорсткія. Якраз пасьля першага этапу "узьядналення", у 1773—1775 гг. Расею трэсла пугачоўшчына.

Беларускія гарады пазбавіліся магдэбурскага самакіраваньня і старых гербаў. Дробную шляхту, што не магла давесьці дакумантамі сваіх правоў, пераводзілі ў падатковае саслоўе. Падаткі ў беларускіх губернях, у адрозьненьні ад расейскіх, дзяржава да 1811 года зьбірала не ў асігнацыях, а ў звонкай манэце. Паводле неафіцыйнага курсу сто папяровых рублёў былі роўныя 22 рублям срэбрам. Гэта значыць, на нашу зямлю лёг цяжар падаткаў у чатыры-пяць разоў большы за ўнутраныя губерні.

На зьмену расфармаванаму новымі ўладамі прафэсійнаму войску Вялікага княства Літоўскага прыйшлі невядомыя дагэтуль Беларусі рэкруцкія наборы. У рэкруты бралі маладых здаровых мужчынаў ва ўзросьце ад 19 да 35 гадоў. Да 1793 г. рэкруты служылі ўсё жыцьцё, потым тэрмін абмежавалі "ўсяго" чвэрцю стагодзьдзя, а наступнае скарачэньне службы да 20 гадоў адбылося толькі ў 1834 г. Да канца XVIII ст. беларускія губэрні далі расейскаму войску 109 тыс. салдатаў, без уліку шляхты, якая папаўняла афіцэрскі корпус. У 1811 г. наш народ складаў дзесятую частку сарамільённага насельніцтва імпэрыі, але пастаўляў ён кожных 15 рэкрутаў з сотні. Беларусы рабіліся гарматным мясам захопніцкіх царскіх паходаў.

Расея ніколі не ведала нацыянальнай і рэлігійнай талерантнасьці. Беларусаў увогуле не прызнавалі за народ, лічылі крыху папсаванымі пальшчызнаю расейцамі. Моваю навучаньня ў абсалютнай большасьці беларускіх школаў у першыя дзесяцігодзьдзі пасьля інкарпарацыі была польская. Гэта можа здавацца дзіўным, але якраз тады, ужо ў расейскай імпэрыі, паланізатары дасягнулі вялікіх посьпехаў. У Пецярбурзе лічылі, што на захопленых землях лепей мець справу з адным палякамі (пазьней сэнс такой палітыкі з цынічнай шчырасьцю сфармулююць у сталінскім атачэньні: ёсьць народ — ёсьць праблема, няма народа — няма праблемы).

З другога боку няўхільна набірала абароты русіфікацыя. Не было даверу нават лаяльнаму да Пецярбурга праваслаўнаму духавенству. Сьвятароў-беларусаў пераводзілі ўглыб імпэрыі, на вызваленыя месцы ехалі расейцы, што ня ведалі ні мовы, ні мясцовых традыцыяў, і глядзелі на прыхаджанаў, як на схізматыкаў. Яны падазрона перачытвалі сьпісы тутэйшых сьвятых, паніжалі іх у рангах, бязьлітасна змагаліся з калядаваньнем, купальлямі ды іншымі спрадвечнымі звычаямі. Пра адносіны вернікаў да гэтых праваслаўных місіянэраў губэрнатары дакладвалі Паўлу I: "Присланные из Смоленской епархии священники не способны к исполнению своих обязанностей и к поддержанию хороших отношений с людьми, этот край населяющими. Они стали ненавистны народу". Для расейскага самаўладзьдзя ніякіх беларусаў не існавала ў прыродзе, а вуніяцкая царква з ейнай народнай моваю сьцьвярджала адваротнае. Нагадаем, што вуніятамі ў Беларусі тады былі кожныя тры жыхары з чатырох, а праваслаўнымі — 6,5%. Ужо за Кацярынай з небясьпечнай Вуніі ў надзейнае ручное праваслаўе расейскага ўзору перагналі паўмільёна нашых продкаў. Вайна самаўладзьдзя з Вуніяй афіцыйна завяршылася на Полацкім царкоўным саборы 12 лютага 1839 г., які прыняў пастанову пра вяртаньне "в лоно прародительской православной веры, дабы пребывать отныне в послушании Святейшего Правительствующего Всероссийского Синода". Пра зьдзекі з беларускіх грэка-каталікоў абурана пісалі Леў Талстой, Аляксандар Герцэн.

Падрыхтаваўшы здратаваньнем Вуніі глебу імпэратар Мікалай I у наступным, 1840 г. зрабіў новы ўдар па нацыянальным бытцы нашага народу — адмысловым указам забараніў у афіцыйных дакумантах ужываць назву Беларусь і ўвёў для беларускіх і літоўскіх губэрняў найменьне "Северо-Западный край".

Каланіяльны стан былога Вялікага княства Літоўскага змушаў многіх патрыётаў пакінуць Радзіму. Сотні беларусаў уступілі ў створаныя ў Мілане касьцюшкаўскім генэралам Янам Дамброўскім легіёны і ваявалі ў напалеонаўскай арміі супраць Аўстрыі, адной з магільшчыц Рэчы Паспалітай. Яны марылі, што Напалеон дапаможа Бацькаўшчыне адрадзіцца. Вайна 1812 г. для Беларусі была зусім не такой як для Расеі. У войску Напалеона ўвосень 1812 г. налічвалася да 50 тыс. беларусаў.

Расейскія ўлады планамерна вытоптвалі на нашай зямлі ўсё самабытнае, беларускае. Адразу пасьля нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1831 г. у Віцебскай і Магілёўскай губэрнях было скасавана дзеяньне Статута Вялікага княства Літоўскага. Цар зацьвердзіў пастанову пра перасяленьне ў Беларусь "выходцев из внутренних губерний, которые принесут с собой в сей край, чуждающейся России, наш язык, обычай, приверженность русских к престолу". На ўсе дзяржаўныя пасады прызначалі толькі расейскіх чыноўнікаў.

"Северо-западный край" каланізатары хацелі зрабіць зацішным, узорна-паказальным куткам імпэрыі. Грунтуючыся на зьдзейсьненым папярэднікамі, гэтую мару не бяз посьпеху ажыцьцяўлялі потым бальшавікі.

